ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 9 жніўня 2000 года

№ 61 (8130)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ
## перадавікоў на жніве-2000

### Экіпажы камбайнаў

*Мікалай Мікалаевіч* **Дрозд** *і Мікалай Іеанавіч* **Белакурскі** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на Е-527 намалацілі* **761 тону збожжа.**

*Міхаіл Уладзіміравіч* **Вербенка** *і Аляксандр Яўгенавіч* **Іваноў** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на "Дон-1500" намалацілі* **600 тон збожжа.**

*Аляксандр Сяргеевіч* **Петранкоў** *і Аляксей Міхайлавіч* **Макаронак** *з СКП "Ніва" на "Дон-1500" намалацілі* **568 тон збожжа.**

*Фёдар Рыгоравіч* **Петрусёў** *і Сяргей Яўгенавіч* **Максімаў** *з калгаса "Камуніст" на "Дон-1500" намалацілі* **363 тоны збожжа.**

*Сяргей Лаўрынавіч* **Іваноў** *і Аляксандр Анатольевіч* **Міхалап** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **353 тоны збожжа.**

*Уладзімір Мікалаевіч* **Комар** *і Анатоль Васільевіч* **Вашукевіч** *з калгаса "III з'езд Саветаў" на "Дон-1500" намалацілі* **346 тон збожжа.**

*Міхаіл Ягоравіч* **Ластачкін** *з сынам* **Аляксандрам** *з Жыліцкага сельгаскаледжа на "Дон-1500" намалацілі* **258 тон збожжа.**

*Уладзімір Ільіч* **Бычкоў** *і Васіль Васільевіч* **Буталенка** *з калгаса імя Дзяржынскага на "Дон-1500" намалацілі* **242 тоны збожжа.**

*Аляксандр Міхайлавіч* **Салановіч** *і Сяргей Міхайлавіч* **Чудапал** *з калгаса "Радзіма" на "Дон-1500" намалацілі* **210 тон збожжа.**

*Сцяпан Апанасавіч* **Стэльмакоў** *і Аляксандр Міхайлавіч* **Маісеенка** *з саўгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **206 тон збожжа.**

*Мікалай Аляксандравіч* **Семянчук** *і Валянцін Ціханавіч* **Еўдакімаў** *з калгаса імя Калініна на "Дон-1500" намалацілі* **192 тоны збожжа.**

*Леанід Аляксандравіч* **Волкаў** *з калгаса імя Свярдлова на "Дон-1500" намалаціў* **182 тоны збожжа.**

*Аляксандр Еўдакімавіч* **Нікіфараў** *з сынам* **Аляксандрам** *з калгаса "Беларусь" на "Дон-1500" намалацілі* **164 тоны збожжа.**

*Дзмітрый Міхайлавіч* **Ганчаронак** *і Валерый Сяргеевіч* **Іваноў** *з калгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **147 тон збожжа.**

*Рыгор Рыгоравіч* **Русецкі** *і Мікалай Віктаравіч* **Русецкі** *з калгаса імя Чапаева на СК-5 "Ніва" намалацілі* **58 тон збожжа.**

### На адвозцы

*Валерый Васільевіч* **Шчэрбіч** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **780 тон збожжа.**

*Аляксандр Рыгоравіч* **Ермалаеў** *з СКП "Чырвоны баец" на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **428 тон збожжа.**

*Валерый Адольфавіч* **Араеў** *з ААТ "Кіраўскае райаграпрамтэхзабеспячэнне" на ЗІЛ-4502 даставіў з гаспадарак раёна на Бабруйскі КХП* **400 тон збожжа.**

*Уладзімір Васільевіч* **Малахоўскі** *з СКП "Ніва" на ГАЗ-53Б перавёз ад камбайнаў* **378 тон збожжа.**

*Уладзімір Уладзіміравіч* **Чарапуха** *з калгаса "III з'езд Саветаў" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **339 тон збожжа.**

*Генадзь Міхайлавіч* **Семенчукоў** *з Жыліцкага сельгаскаледжа на МАЗ-5549 перавёз ад камбайнаў* **311 тон збожжа.**

*Іван Мітрафанавіч* **Герасімовіч** *з калгаса імя Кірава на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **308 тон збожжа.**

*Аляксандр Савельевіч* **Сямёнаў** *з калгаса імя Калініна на МТЗ-82 перавёз ад камбайнаў* **267 тон збожжа.**

*Сяргей Уладзіміравіч* **Казлоўскі** *з калгаса імя Дзяржынскага на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **240 тон збожжа.**

*Віктар Мікалаевіч* **Глушакоў** *з калгаса "Камуніст" на ЗІЛ-4502 перавёз ад камбайнаў* **239 тон збожжа.**

*Сяргей Міхайлавіч* **Чудапал** *з калгаса "Радзіма" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **230 тон збожжа.**

*Іван Іосіфавіч* **Скрыпуноў** *з саўгаса імя Кірава на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **181 тону збожжа.**

*Анатоль Уладзіміравіч* **Сідараў** *з калгаса імя Свярдлова на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **134,5 тоны збожжа.**

*Валянцін Дзмітрыевіч* **Ермалаеў** *з калгаса "Беларусь" на САЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **115,4 тоны збожжа.**

***ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ***

**аб ходзе ўборкі збожжавых і зернебабовых культур у гаспадарках раёна на 8 жніўня г.г.**

| Назва гаспадарак | Убрана ў % да пасеянага | Сярэдняя ўраджайн. ц/га | Прададз. дзярж. у % да плана |
|---|---|---|---|
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 54,2 | 44,3 | 41,5 |
| СКП «Чырвоны баец» | 50,2 | 35,2 | - |
| імя Дзяржынскага | 48,9 | 22,9 | 51,2 |
| с-с «Шыннік» | 47,4 | 13,9 | 101,0 |
| «III з'езд Саветаў» | 47,1 | 26,5 | 78,0 |
| СКП «Ніва» | 43,5 | 32,1 | 65,7 |
| імя Свярдлова | 41,5 | 10,5 | 35,7 |
| «Камуніст» | 41,4 | 23,6 | 27,0 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 39,6 | 25,2 | 26,1 |
| імя Чапаева | 37,9 | 11,0 | 25,0 |
| с-с імя Кірава | 32,4 | 16,3 | 27,5 |
| імя Калініна | 32,2 | 19,2 | 73,9 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 28,9 | 14,3 | 45,0 |
| «Радзіма» | 27,8 | 29,9 | 28,6 |
| «Беларусь» | 26,8 | 14,4 | 47,3 |
| імя Кірава | 23,2 | 21,3 | 13,6 |
| імя Ільіча | 9,3 | 12,4 | 24,0 |
| Усяго па раёне: | 38,0 | 26,1 | 38,4 |

*Ураджай -2000*

# КАБ НЕ ПРАМАРУДЗІЦЬ ЧАС



Сярэдняя ўраджайнасць, якую зараз атрымліваюць працаўнікі СЗАТ "Бераснёўскае", невялікая — каля 15 цэнтнераў з гектара. Безумоўна, на аддачы збожжавага поля адбіліся веснавыя халады і засуха. Ды і, што тут граху таіць, зямля-карміцелька атрымлівае пакуль вельмі бедную запраўку, а яе не падманіш.

Надвор'е не песціць хлебаробаў і ў час уборкі: даждждыы часам збіваюць дакладна наладжаны рытм работы, якому ў гаспадарцы падпарадкаваны, здаецца, усе — ад малога да вялікага.

На вагу золата кожная пара рук, кожная пагодлівая хвіліна. Дарослыя шчыруюць на ўборцы збожжавых, нарыхтоўцы кармоў, сціртаванні саломы, ворыве. На збожжатаку з азартам і агеньчыкам працуе моладзь.

Своечасова ўбраць дарагой цаной вырашчаны ўраджай і захаваць яго — гэта галоўнае, што прымушае сяльчан працаваць з раніцы да вечара. І механізатары, якія на хвілінку спыніліся, каб абмеркаваць далейшую расстаноўку камбайнаў на полі (у гэты час быў зроблены здымак каля "стэпавага карабля" перадавога экіпажа С.С.Шапоткіна), гаварылі менавіта аб гэтым. А падставы, каб своечасова правесці жніво, у гаспадарцы ёсць: камбайны адрамантаваны, маюцца неабходныя запчасткі, ёсць запас паліва. Вось толькі з выплатай заработнай платы тут ніяк не наладзяцца справы: мяркуюць яе выдаць за красавік. А тэрміны ліквідацыі запазычанасці па зарплаце працаўнікам вёскі, названыя Прэзідэнтам краіны на рэспубліканскай селектарнай нарадзе, вядомыя ўсім. Таму, як адзначыў пры размове старшыня гаспадаркі М.М.Кахно, прадпрымаюцца ўсе меры, каб у бліжэйшы час разлічыцца з людзьмі.

На пытанне, ці задавальняюць гарачыя абеды, якімі двойчы ў дзень забяспечваюцца занятыя на жніве, механізатары адказалі адназначна: "Кормяць добра, скаргаў на гэта няма".

Добра разумеюць клопаты хлебаробаў кіраўчане, таму прыходзяць ім на дапамогу. Так, два камбайнавыя экіпажы на "Дон-1500" з ПТВ-220 дапамагаюць сяльчанам убіраць хлеб. А збожжавы клін тут даволі значны — 1635 гектараў. Убрана пакуль чацвёртая частка. Таму і механізатары, і галоўны тэхнолаг палёў, і кіраўнік гаспадаркі з апаскай глядзяць на сонца: "Эх, не падвяло б яно і заўтра!"

**Таццяна БАРАДЗІНА.**

**На здымках:** ***перадавы вадзіцель на адвозцы збожжа ад камбайнаў М.А. Нікіфараў; (злева направа) С.С.Шапоткін і А.А.Скрыпуноў (перадавы экіпаж), камбайнер В.В.Ліпкін і У.М.Навуменка.***

**Фота Івана Лукановіча.**



# ПРЭС-ЦЭНТР РАЙВЫКАНКАМА ІНФАРМУЕ

Мінулая планёрка ў райвыканкаме пачалася з аналізу работы прамысловай галіны. Як адзначыў старшыня райвыканкама А.С.Сцяпанчанка, тэмп росту па выпуску прамысловай прадукцыі за 7 месяцаў некалькі вышэй адпаведнага перыяду мінулага года і складае 100,7 працэнта. Гэта невялікі крок наперад, але на прагнозны паказчык (102%) галіна не выйшла. Такім чынам, ёсць над чым працаваць кіраўнікам, інжынерна-тэхнічным работнікам, усім працоўным калектывам прамысловых прадпрыемстваў. А.С.Сцяпанчанка строга папярэдзіў, што валавая вытворчасць прадукцыі, выпуск тавараў народнага спажывання па-ранейшаму застаюцца на кантролі ў "вертыкалі".

Старшыня райвыканкама праінфармаваў прысутных аб ходзе жніва. На яго тэмпы і якасць уплывае шэраг аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын. Нягледзячы ні на што, каласавыя ўбраны на адной трэцяй частцы ад пасеянага. Радуе і ўраджайнасць. Праўда, не ўсюды. Паралельна са жнівом вядзецца сціртаванне саломы і продаж збожжа дзяржаве. На раніцу 7 жніўня яго дастаўлена на камбінат хлебапрадуктаў звыш 4000 тысяч тон. Грошы, выручаныя ад продажу збожжа, ідуць на пагашэнне запазычанасці па заработнай плаце, набыццё паліва, іншыя мэты.

Добраўпарадкаванне райцэнтра і на гэты раз было ў цэнтры ўвагі старшыні. А.С.Сцяпанчанка выказаў прэтэнзіі да кіраўніцтва РВА ЖКГ і ДРБУ-197 за санітарны стан вуліц імя Арлоўскага і імя Валадарскага.

Вялікая ўвага адводзілася падрыхтоўцы да прадстаячых выбараў дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання.

Закончылася ранішняя планёрка інфармацыяй аб дэмаграфічнай сітуацыі ў раёне. Прыводзіліся дадзеныя за паўгоддзе аб колькасці заключаных шлюбаў, разводаў, народжаных, памёршых, аб міграцыі насельніцтва. Не можа не насцярожыць той факт, што раён наш "старэе", у ім скарачаецца нараджальнасць, скарачаецца колькасць жыхароў, разводаў больш, чым шлюбаў.

# НА ЗАКУП МАЛАДНЯКУ

ААТ "Белаграпрамбанк" адкрыў крэдытную лінію гаспадаркам на закуп маладняку буйной рагатай жывёлы. Прычым пад 50 працэнтаў ад стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка з тэрмінам пагашэння даўгоў да 1 студзеня 2003 года.

Умовы вызначаны самыя выгадныя, але выкарыстаць такую падтрымку дзяржавы змогуць далёка не ўсе. Ільготныя крэдыты атрымаюць толькі плацёжаздольныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы.

З'явілася магчымасць павялічыць пагалоўе грамадскага статка ў калгасаў: імя Свярдлова, імя Дзяржынскага, імя Кірава і "Камуніст". На закуп маладняку ім выдадзены крэдыты на суму 5 мільёнаў рублёў.

# СЕЛЬСКІЯ КЛОПАТЫ ГАРАДЖАН

У гэтыя дні, калі на палях раёна вядзецца ўборка ўраджаю, сваё плячо хлебаробам падставілі працаўнікі ААТ "Кіраўскае райаграпрамтэхзабеспячэнне". Тут старанна падрыхтаваліся да жніва: надзейна адрамантавалі 5 наяўных камбайнаў СК-5 "Ніва", укамплектавалі мехатрад вопытнымі кадрамі. Спачатку кіраўчане шчыравалі на палетках калгаса "Радзіма", дзе намалацілі 550 тон, а зараз — у калгасе імя Ільіча. Лідзіруе на ўборцы экіпаж Уладзіміра Дзмітрыевіча Комара і Валерыя Іванавіча Свірко, на рахунку якога 115 тон збожжа.

Днямі аўтапарк райаграпрамтэхзабеспячэння папоўніўся чатырма новымі камбайнамі "Дон-1500", тры з якіх працуюць ужо на ўборцы ў калгасе "Беларусь".

**ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ**

**аб сярэднясутачных надоях малака ў гаспадарках раёна на 8 жніўня г.г.**

| Гаспадаркі | Надоена на кар. (кг) | +, - да 1999 года |
|---|---|---|
| СКП «Ніва» | 12,6 | 0,1 |
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 12,1 | -2,6 |
| СКП «Чырвоны баец» | 12,1 | -2,8 |
| імя Дзяржынскага | 10,8 | 2,3 |
| «Беларусь | 10,8 | 1,7 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 9,7 | -0,1 |
| імя Калініна | 8,5 | -0,8 |
| «Камуніст» | 8,4 | 0,3 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 8,0 | -1,1 |
| с-с імя Кірава | 7,6 | -1,3 |
| імя Кірава | 7,5 | 0,1 |
| «III з'езд Саветаў» | 7,4 | 1,6 |
| «Радзіма» | 6,8 | -0,7 |
| імя Свярдлова | 6,8 | -0,9 |
| с-с «Шыннік» | 6,7 | 1,1 |
| імя Чапаева | 5,8 | -0,5 |
| імя Ільіча | 5,3 | -0,2 |
| Усяго па раёне: | 9,2 | -0,5 |

Інтэрв'ю з нагоды

# ВЫКАРЫСТОЎВАЮЧЫ ПРАЦОЎНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ КАЛЕКТЫВУ

**Агароднінасушыльны завод, перайменаваны нядаўна згодна апошніх патрабаванняў ва Унітарнае вытворчае прадпрыемства "Кіраўскі кансервавы завод", за 46 гадоў свайго існавання, перажываў перыяды ўздыму і спаду вытворчасці, змену кіраўніцтва, адаптацыі да новых умоў гаспадарання. Нязменнымі заставаліся стараннасць калектыву ў выкананні пастаўленай задачы: перапрацоўкі агародніны і садавіны, вырашчаных ў дзяржаўным і індывідуальным сектарах, аддаласць прадпрыемству ў самыя складаныя для яго часіны.**

**Дзякуючы гэтаму працоўнаму патэнцыялу калектыву, прадпрыемства жыве і працуе, мае пэўныя поспехі. Прырост вытворчасці за першае паўгоддзе склаў 20,8 працэнта. Добра спрацаваў калектыў і па выніках 7 месяцаў. Аб здабытках, праблемах і планах завадчан, расшырэнні вытворчых магчымасцей — наша гутарка з кіраўніком прадпрыемства Б.М. КУЎШЫНАВЫМ.**



**Барыс Мікалаевіч Куўшынаў** *закончыў Магілёўскі тэхналагічны інстытут у 1980 годзе, працаваў на інжынерных пасадах у калгасе "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, апошнія пяць гадоў узначальваў калектыў кансервавага завода. Жанаты, мае траіх дзяцей, старэйшая дачка студэнтка Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, малодшы сын — дашкольнік. На новай пасадзе дырэктара УВП "Кіраўскі кансервавы завод" Б.М.Куйшынаў з красавіка бягучага года.*

***— Барыс Мікалаевіч, праславутыя сто дзён, якія традыцыйна адводзяцца на тое, каб увайсці ў курс спраў, вызначыцца ў далейшых дзеяннях, зарэкамендаваць сябе для Вас мінулі. Што зроблена?***

— Перш, чым гаварыць аб справах, адзначу, што калектыў на заводзе выдатны, людзі падабраліся вопытныя, працавітыя. Карыстаючыся выпадкам хачу падзякаваць ім за падтрымку, разуменне, сумесную плённую работу. А аб апошнім, дарэчы, сведчаць паказчыкі. Так, план 7 месяцаў па выпуску таварнай прадукцыі ў супараўнальных цэнах выкананы на 114,2 працэнта, выпуску тавараў народнага спажывання — на 118,4 працэнта. Атрымана 24,8 мільёна рублёў прыбытку. Прадпрыемства працуе рэнтабельна. Гэты паказчык стабільны з пачатку года, а за чэрвень, напрыклад, склаў 19,6 працэнта.

На бягучы год у нас распрацаваны бізнес-план, з якім звяраем сваю дзейнасць. А асноўнай задачай завадчан з'яўляецца нарыхтоўка і перапрацоўка сельгаспрадукцыі. Выпускаем мясныя і плодаагароднінныя кансервы, безалкагольныя напіткі, крухмал, яблычнае пюрэ, сокі, займаемся разлівам вінаградных він. Працуе швейны цэх.

***— І наколькі прыбытковая гэтая вытворчасць?***

— Існаванне падобнага цэха на кансервавым заводзе — ідэя арыгінальная. Але паколькі ён ёсць, стараемся загрузіць работай. Пад патрэбы вытворчасці закуплена трыкатажная тканіна. І замест запланаваных на год 800 тысяч рублёў, ўжо сёння маем швейнай прадукцыі на 1 мільён 361 тысячу рублёў. Плённа працуюць і ўсе астатнія цэхі. Фактычна зараз ідзе перавыкананне ўсіх планавых паказчыкаў.

***— Вызначальным фактам для такога прадпрыемства, як ваша, з'яўляецца наяўнасць сыравіны. Ці ёсць праблемы?***

— Мы працуем з суб'ектамі гаспадарання Магілёўскага аблспажыўсаюза, сыравіну — гародніну, садавіну, мяса закупляем па ўсёй вобласці. Заключаны дагаворы з прадпрыемствамі сістэмы "Каапнарыхтпрам". Акрамя таго, зараз нам нададзены статус нарыхтоўчай арганізацыі для паляпшэння ўліку і аб'ёмаў закупу прадукцыі жывёлагадоўлі. Ёсць магчымасць набываць мяса непасрэдна ў гаспадарках. Аднак на сённяшні дзень сыравінай мы забяспечаны: адпрацаваныя каналы паставак не даюць збояў. Мясныя кансервы выпускаем ў бляшаных і шкляных слоіках. І ў гэтым з'яўляемся ў сваёй сістэме Белкаапсаюза манапалістамі ў вобласці. У іншых раёнах камбінаты кааператыўнай прамысловасці перапрацоўваюць мяса ў каўбасы і вэнджаніну, а кансервы выпускаюцца толькі ў нас.

Для індывідуальных здатчыкаў на заводзе арганізаваны пункт прыёму садавіны і агародніны. Гэта дазваляе знізіць сабекошт пладовай прадукцыі амаль на 5 працэнтаў. Цана на гэту сыравіну рэгулюемая і залежыць ад патрэб вытворчасці і прапановы рынку. У цяперашні час на прадпрыемстве вядзецца закуп і перапрацоўка агуркоў, кабачкоў, яблыкаў, часнаку, цыбулі. А вось з ягадамі мы сёлета не працавалі. Замаразкі, засуха ў пачатку лета адмоўна адбіліся на іх ураджаі і неймаверна ўзвінцілі цэны. Так, што перапрацоўка ягад стала для нас нявыгаднай.

***— Уся выпускаемая заводам прадукцыя знаходзіць свайго пакупніка?***

— Наш асноўны пакупнік — базы аблспажыўсаюза, а таксама іншыя спажыўцы рэспублікі. Частка прадукцыі рэалізуецца за межамі Беларусі. Тут нашымі пастаяннымі партнёрамі з'яўляюцца Масква, Санкт-Пецярбург, Екацерынбург. З пачатку года за мяжу рэалізавана кансервавай прадукцыі на 35881 тысячу рублёў, што складае 17,5 працэнта ад агульнага аб'ёму вытворчасці.

У мэтах забеспячэння сыравінай і дапаможнымі матэрыяламі, як тамат-паста, цукар, часнок, прыправы, фільтры, выкарыстоўваем бартэрныя аперацыі. Сёлета яны яшчэ больш расшыраюцца. Гэта ў сваю чаргу дазволіць знізіць долю неплацяжоў.

***— Гэты эканамічны біч не мінуў і ваш завод?***

— Зразумела! Толькі Клічаў і Асіповічы запазычыліся нам за пастаўлены ліманад па 2 мільёны рублёў. Уся праблема ў тым, што падобныя выплаты не лічацца першачарговымі. А пры дэфіцыце сродкаў сваёй чаргі даводзіцца чакаць вельмі доўга. Гэта тармозіць развіццё вытворчасці.

***— Што ў планах завадчан на бліжэйшы час і перспектыву?***

— Мы выпускаем каля 50 відаў разнастайнай прадукцыі. Яе таварны выгляд — наш сённяшні клопат. Вядзецца наладка лініі па ўпакоўцы пладовай прадукцыі ў тэрмаўсадачную плёнку, што дазволіць адмовіцца ад драўлянай тары, павялічыць экспартныя пастаўкі, выйсці на міжнародныя стандарты, скарачаюцца і страты на захоўванне і рамонт драўляных скрынь.

У планах заканчэнне нашага "даўгабуду" — пераводу кацельні на газ. Эканамічны эфект складзе 85 тысяч рублёў у год, немалаважным бачыцца і паляпшэнне экалогіі гарадскога пасёлка. Перавод на газ зніме шэраг праблем вытворчасці, ацяплення засілкаваных ад нашай кацельні жылых дамоў. У планах рэканструкцыя воданапорнай вежы.

Вядзецца работа па паляпшэнню эстэтычнага выгляду нашай прадукцыі. Напэўна, спажыўцы звярнулі ўвагу на маляўнічыя этыкеткі "Крэм-соды", "Дзюшэсу". Ёсць у нас і шэраг іншых цікавых распрацовак, укараненне якіх пакуль стрымліваецца фінансавай абмежаванасцю. Галоўнай задачай бачыцца своечасовая выплата зарплаты людзям, забеспячэнне бесперабойнай работы вытворчасці. З гэтай мэтай пачалі рэканструкцыю агароднінасховішча з пераводам яго на сокасховішча. Гэта дазволіць у сезон нарыхтоўваць сокі, змяшчаць іх у ёмістасці з тым, каб потым, у міжсезонне загружаць цэхі работай, купажыраваць і разліваць сокі ў слоікі. Рыхтуецца праектная дакументацыя на вытворчасць пладоваягадных він. Сродкі пад гэты праект выдзяляюцца з інавацыйнага фонду Белкаапсаюза.

***— Вы не навічок у галіне, і павінны рэальна ацэньваць магчымасці. Якія яны?***

— Каб дасканала вывучыць рынак, умець маніпуліраваць ім, выпускаць прадукцыю пад патрэбу, каб яна не залежвалася на складах, на новым месцы неабходна адпрацаваць хаця б год, каб закончыўся сельскагаспадарчы і нарыхтоўчы цыкл. Так што, усё наперадзе. Лічу, што на вытворчасці неабходна ўмець вар'іраваць, іншы раз ісці на вымушаныя страты і, зразумела, абапірацца на калектыў. А людзі ў нас, як пераканаўся, цудоўныя. Такія, як рабочыя кансервавага цэха №1 Вольга Іванаўна Бяляўская, Аляксандра Аляксандраўна Карпава, рабочая цэха безалкагольных напіткаў Тамара Аляксандраўна Атрошанка, вадзіцелі Сяргей Міхайлавіч Караньков, Мікалай Васільевіч Осіпаў і іншыя, накіроўваемыя вопытным інжынерна-тэхнічным персаналам.

***— Дзякуй за гутарку і поспехаў Вам і калектыву завода.***

**Таццяна МАІСЕЕНКА.**

# УТВОРАНЫ АКРУГОВЫЯ ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ

**Разгледзеўшы састаў прадстаўнікоў у акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання, вылучаных рэспубліканскімі кіруючымі органамі палітычных партый, іншымі грамадскімі аб'яднаннямі, сходамі (канферэнцыямі) працоўных калектываў, грамадзянамі, якія валодаюць выбарчым правам, шляхам падачы заявы ў адпаведнасці з артыкуламі 34 і 35 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь, прэзідыум абласнога Савета дэпутатаў і абласны выканаўчы камітэт утварылі ў Магілёўскай вобласці акруговыя камісіі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання.**

**У састаў акруговай выбарчай камісіі Быхаўскай выбарчай акругі №66** (месца знаходжання камісіі: г.Быхаў, вуліца Леніна,31. Тэлефон 21-341) **увайшлі:**

**БЯЛОВА** ***Вера Мацвееўна*** *— ад выбаршчыкаў працоўнага калектыву аддзела сацыяльнай абароны Слаўгарадскага райвыканкама;*

**ГАЎРЫЛЕНКА** ***Любоў Сяргееўна*** *— ад грамадзян, шляхам падачы заявы;*

**ДОБЫШ** ***Клаўдзія Сямёнаўна*** *— ад грамадзян, шляхам падачы заявы;*

**ДАЛГІХ** ***Зінаіда Аляксандраўна*** *— ад выбаршчыкаў працоўнага калектыву акцыянернага таварыства "Кіраўскі масларобчы завод";*

**ЯРОМЕНКА** *Антаніна Іванаўна — ад грамадзян, шляхам падачы заявы;*

**ІГНАЦЬЕЎ** *Дзмітрый Іванавіч — ад грамадзян, шляхам падачы заявы;*

**КОРШАК** ***Аляксандр Сяргеевіч*** *— ад выбаршчыкаў працоўнага калектыву аддзела адукацыі Кіраўскага райвыканкама;*

**КРАЎЧАНКА** ***Любоў Іванаўна*** *— ад выбаршчыкаў працоўнага калектыву філіяла №709 адкрытага акцыянернага таварыства "Беларусбанк" у г.п.Кіраўску;*

**МІРОНЕНКА** ***Мікалай Сяргеевіч*** *— ад грамадзян, шляхам падачы заявы;*

**НАШЫВАНКІН** ***Уладзімір Іванавіч*** *— ад выбаршчыкаў працоўнага калектыву Быхаўскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі;*

**НІКІТКАВА** ***Зоя Цімафееўна*** *— ад грамадзян, шляхам падачы заявы;*

**ПЕЧАНЮК** ***Дзмітрый Ігнацьевіч*** *— ад Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў;*

**УНІЯТАЎ** ***Міхаіл Якаўлевіч*** *— ад камуністычнай партыі Беларусі.*

X X X

Днямі адбылося арганізацыйнае пасяджэнне акруговай камісіі Быхаўскай выбарчай акругі №66 па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання. Старшынёй акруговай выбарчай камісіі выбраны Д.І.Ігнацьеў — намеснік старшыні Быхаўскага райвыканкама. Намеснік старшыні Слаўгарадскага райвыканкама М.С.Міроненка выбраны намеснікам старшыні камісіі, а сакратаром — З.Ц.Нікіткава, спецыяліст па дагаворна-прававой рабоце ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчаванння Быхаўскага райвыканкама.

"Кіраўцу" адказваюць

# "НАБАЛЕЛА"

***Так называлася пісьмо Сяргея Каранкевіча, надрукаванае ў "Кіраўцы" за 22 ліпеня бягучага года. У матэрыяле ўздымалася праблема якасці выпякаемых на нашым камбінаце кааператыўнай прамысловасці батонаў. 31 ліпеня рэдакцыя атрымала адказ ад галоўнага ўрача раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі У.Ф.Верам'ёва. У рэагаванні гаворыцца:***

*"Прыведзеныя ў пісьме факты ў асноўным правільныя. Для выпечкі батонаў выкарыстоўвалася мука, якая была паражона "бульбяной хваробай". Пастановай №26 ад 27.07.2000 года забаронена выпечка батонаў з гэтай мукі. Прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці (штрафу) дзве пасадавыя асобы. Праведзена работа па змяненню рэцэптуры і паляпшэнню якасці выпякаемых батонаў".*

# ЖЫЦЬ СТАЛА ДАРАЖЭЙ

На працягу чэрвеня 2000 года цэны на розныя віды паслуг у Беларусі павялічыліся на 16,7 працэнта. Яны занялі лідзіруючую пазіцыю ў агульным рэестры падаражанняў месяца. Асабліва рэзка, як падлічылі статыстыкі, у першы летні месяц узрос кошт паслуг жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У два разы паднялася плата за электрычнасць, цана водазабеспячэння стала на 71,8 працэнта вышэйшая. У сярэднім жа аплата жылля падаражала на 69,6 працэнта. А што датычыць кошту паслуг пасажырскага транспарту, то ён, паводле дадзеных Мінстата, у чэрвені 2000 года ў параўнанні з маем бягучага павялічыўся на 14,4 працэнта. Цана бытавых паслуг на працягу мінулага месяца стала вышэйшай на 9,7 працэнта.

**БелТА.**

## * Чалавек і яго справа



***Старшую медсястру дзіцячага аддзялення Святлану Мікалаеўну Бяляўскую добра ведаюць многія мамы, якія маюць дзяцей дашкольнага ці малодшага школьнага ўзросту. Дзеці, як вядома, вельмі дапытлівыя і гарэзлівыя, нярэдка засмучаюць сваіх мам хваробамі. Праз рукі работнікаў дзіцячага аддзялення праходзіць шмат хлопчыкаў і дзяўчынак. За тыя пятнаццаць гадоў, што Святлана Мікалаеўна працуе тут, яе былыя маленькія пацыенты выраслі, а ёй даводзіцца мець справу ўсё з новымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі. З імі яна заўсёды ўмее знайсці агульную мову — сама ж маці, у яе падрастаюць дачка Юля, вучаніца трэцяга класа, і сын Уладзік, — а вось з некаторымі мамамі псіхалагічна складана бывае мець зносіны.***

***Як адзначыла загадчык дзіцячага аддзялення Т.В.Кавалеўская, С.М.Бяляўская — вельмі адказны, граматны медработнік, проста незаменны. А калі бывае дома, то ўсе суседзі, пры неабходнасці, звяртаюцца да яе за дапамогай.***

***У свой час Святлана Мікалаеўна закончыла Бабруйскае медыцынскае вучылішча. І зараз помніць, што нялёгка было пачынаць самастойны шлях у медыцыне. Але з гадамі прыйшлі ўменне, вопыт. Толькі адно засмучае — складана стала з лякарствамі, неабходнымі медыкаментамі, інструментарыем — у бальніцы не хапае фінансавых сродкаў. Але дзіцячае аддзяленне забяспечваецца ў першую чаргу.***

**Фота Івана Лукановіча.**

# ПРИМИТЕ ПОЗДРАВЛЕНИЯ!

**г.п.Кировск, ул.Гагарина, 69,**
**ТАМАРЕ ФЕДОРОВНЕ АСТАПОВИЧ**
**Уважаемая Тамара Федоровна!**

***Сердечно поздравляем с днем рождения.***

*Улетают года, словно пух тополей,*
*Не грусти, провожая их взглядом,*
*Ведь года — не беда, и совсем ерунда*
*Коль семья и друзья с тобой рядом.*
*Желаем, чтоб сердце ритмично стучало,*
*Чтоб годы замедлили бег,*
*И чтоб беды отпали, печаль не встречалась,*
*Здоровья хватило на век.*

**Коллектив работников семенной инспекции.**

**г.п.Кировск, ул.Гагарина, 75, кв.4,**
**ЮРИЮ АНАТОЛЬЕВИЧУ ВОРОТИЛКИНУ**
**Дорогой Юрий!**

***Сердечно поздравляем тебя с 25-летием.***

*Пусть годы бегут за годами,*
*О том, что прошло, не грусти,*
*А тем, кто обидел когда-то,*
*Обиды всем сердцем прости.*
*Не трать свои нервы напрасно,*
*Здоровье не купишь нигде,*
*Пусть жизнь твоя будет прекрасной,*
*Мы счастья желаем тебе.*

**Семья О.Н.Подъяловского.**

* * *

**Доргой муж, любимый папочка!**

***От всей души поздравляем тебя с 25-летием.***

*Желаем счастья и добра,*
*Желаем жизни полной,*
*Желаем бодрости с утра*
*До самой ночи поздней.*
*Желаем в доме все иметь,*
*Желаем в жизни все успеть,*
*Здоровье, бодрость сохранить,*
*И много-много лет прожить.*

**Жена, сын Станислав.**

**д.Барсуки, ул.Луговая, 1,**
**РОМАНУ ЯКОВЛЕВИЧУ ШАВЕРОВУ**
**Уважаемый Роман Яковлевич, дорогой дядя!**

***Прими наши самые наилучшие поздравления с 40-летним юбилеем.***

*Такие даты празднуем не часто,*
*Но коль пришла сей день встречать пора,*
*Мы от души желаем много счастья,*
*И с ним здоровья и добра.*
*Пусть не страшат летящие года —*
*Еще их столько в жизни будет,*
*Пусть будут в спутниках всегда*
*Доброжелательные люди.*
*Пусть ангел жизнь твою хранит,*
*Ведь в жизни всякое бывает,*
*Пусть горе в двери не стучит,*
*А радость никогда не забывает.*

**Мария Кирилловна и племянники.**

* * *

**Дорогой, любимый муж, папочка!**

***Сердечно поздравляем тебя с 40-летием.***

*Пусть юбилей несет лишь счастье,*
*Ни капли грусти, ни одной слезы.*
*Душевного богатства и здоровья*
*Желаем мы от всей души.*
*Желаем, чтоб везло в любом полезном деле,*
*И не летели спешно так года,*
*Чтоб голова от горя не седела,*
*И сердце не болело никогда!*

**Жена, дети.**

**д.П.Слобода, ул.Заречная,33,**
**ЕКАТЕРИНЕ ВИКТРОВНЕ ПЕТРОВОЙ**
**Дорогая Катюша!**

***Сердечно поздравляем тебя с 20-летием.***

*Пусть тебе улыбается счастье,*
*Как весеннему солнцу цветы,*
*Пусть тебя покидает ненастье,*
*Оставляя следы доброты.*
*Пусть любовь тебе ярко сияет,*
*Освещая твой жизненный путь,*
*Будь счастливее всех ты на свете*
*И конечно, любимою будь.*

**Коллектив работников д/сада д.П.Слобода.**

## Прэс-аўтаклуб

# СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА АЎТАМОТААМАТАРАЎ



Рашэннем Кіраўскага раённага выканаўчага камітэта ад 24 мая 2000 года пастаўлена на ўлік раённая грамадская арганізацыя Беларускага таварыства аўтамотааматараў (БТАМА). Арганізацыя гэта не новая. Старэйшае пакаленне помніць, што раней такая арганізацыя існавала, а ў некаторых вадзіцеляў захаваліся нават дакументы, пацвярджаючыя членства ў ёй. Але ў сілу розных аб'ектыўных прычын таварыства спыніла сваю дзейнасць.

Таварыства аўтамотааматараў будзе планаваць і праводзіць сваю работу ў цесным кантакце з дзяржаўтаінспекцыяй райаддзела ўнутраных спраў. Спачатку, як гаворыцца, трэба папоўніць свае рады. Потым сумесна з ДАІ РАУС будзем працаваць над умацаваннем дысцыпліны сярод удзельнікаў руху, над развіццём матэрыяльна-тэхнічнай базы па абслугоўванню і рамонту, а таксама захаванню аўтамотатранспарту. І яшчэ адзін вельмі важны накірунак у нашай дзейнасці — абарона правоў і законных інтарэсаў членаў БТАМА. Я назваў тры асноўныя задачы, якія можна рашыць пры свядомым падыходзе грамадскасці і вышэйстаячых арганізацый.

Зараз членамі таварыства з'яўляюцца 54 чалавекі. Рады нашы з кожным днём растуць. **Жадаючых стаць членамі БТАМА чы чакаем па адрасу: г.п.Кіраўск, вул.Ленінская, ДАІ з 13 да 15 гадзін па аўторках і пятніцах.**

На базе БТАМА праводзіцца рэгістрацыя мапедаў і веласіпедаў, выдача на іх нумарных знакаў. Для падлеткаў, а менавіта іх у асноўным можна сустрэць за рулём мапедаў, будуць арганізаваны заняткі па вывучэнню Правілаў дарожнага руху. Пры рэгістрацыі будзе рэгістравацца завадскі нумар транспартнага сродка, а таксама па жаданню ўладальніка будзе выбівацца гэты нумар на здымных дэталях і выдавацца дзяржаўны нумарны знак. Кошт рэгістрацыі 0,25 мінімальнай заработнай платы.

Усе зборы пойдуць на развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы таварыства.



**Аляксандр ШЫШКЕВІЧ, старшыня раённага таварыства аўтамотааматараў.**

# УДАР СТЫХІІ

У панядзелак з раніцы было душна, прыпарвала. Па ўсяму адчувалася, што будзе дождж. І ён не прымусіў сябе доўга чакаць: дзесьці каля пятнаццаці гадзін над райцэнтрам шумела навальніца. З маланкамі, ударамі Перуна, парывістым ветрам, які месцамі дасягаў ураганнай сілы. Так, у калгасе "Радзіма" такім ветрам пазрывала шыфер на дахах кароўнікаў у Любонічах і Уласавічах, на боксах для захоўвання сельскагаспадарчай тэхнікі. Можна ўявіць, якой сілы быў вецер, калі на цэнтральнай сядзібе калгаса "Радзіма" нахіліла нават сушылку актыўнага вентылявання.

У калгасе "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага ад моцнага ветру пацярпела Валосавіцкая малочнатаварная ферма, дзе часткова раскрыла дах на кароўніку. Пранеслася стыхія і над СКП "Ніва". Тут пасля яе наведвання раскрытымі аказаліся дахі на кароўніку, іншых пабудовах. На Алянскай ферме, што ў СЗАТ "Бераснёўскае", вецер сарваў звыш сотні лістоў шыферу.

Лівень з ураганным ветрам гуляў і над іншымі гаспадаркамі. Урон, нанесены, стыхіяй, падлічваецца.

# САМЫЯ, САМЫЯ...

*Самая магутная ў свеце бомба была зроблена ў СССР. Гэта вадародная бомба магутнасцю 150 мегатон. Калі правесці яе ўзрыў з поўным боезарадам, то можа адбыцца разлом Зямной кары. Таму выпрабаванні праводзіліся палавінчатым снарадам. Кажуць, што летчык, які праводзіў бамбакіданне, "памяшаўся".*

x x x

*Мы і раней не раз спрабавалі прывесці да вар'яцтва сваім празмерным гігантызмам. Не без іроніі, праўда, але ўсе ж кажуць, што адзін замежны пасол страціў розум, убачыўшы знакамітую рускую цар-пушку. Гэта самая вялікая ў свеце пушка. Дзякуй Богу, за ўвесь час яна так ні разу і не стрэліла.*

x x x

*А вось самая старая пушка (марская) знойдзена ў французскім горадзе Вільфранш на ўзбярэжжы Міжземнага мора. Каштоўную знаходку паднялі з 18-метровай глыбіні на дне невялікай бухты плаўцы-падводнікі, таксама французы.*

*Лічаць, што яна была гарматай затопленага французскага карабля, а зроблена ў канцы XV- пачатку XVI стагоддзяў і была вельмі вялізная для свайго часу — 3,5 м у даўжыню, і каля 20 сантыметраў у дыяметры. І праляжаўшы на марскім дне амаль пяць стагоддзяў "старая" цудоўна захавалася.*

**Вячаслаў СТОМА, член Саюза пісьменнікаў.**

# КРОССВОРД

## Составил Николай Кузнецов



***По горизонтали:*** **4.** *Его ноги кормят, но не волк.* **9.** *Нелицеприятный массаж.* **10.** *"Звериный" автоприцеп.* **11.** *Заведение, в котором одни лечатся, а другие учатся на их болезнях.* **12.** *Десять дней.* **15.** *Лакомство, доступное кошкам, не живущим собачьей жизнью.* **17.** *Выдача фальшивки за чистую монету* **19.** *Место, где, как правило, чай не пьют, но на чай дают.* **20.** *И конкретное экипирование, и любое надувательство.* **22.** *Это когда всем на корабле некогда.* **23.** *Великан.* **26.** *Шпион на легальном положении.* **29.** *С горном, но не пионер.* **31.** *Гулянка не со своим лицом.* **32.** *И душевный, и короткий, и мужской.* **33.** *Соловей, но не птица, а былинный персонаж.*

***По вертикали:*** **1.** *И собачий холод, и лиственный лес.* **2.** *"Браслеты" для преступника.* **3.** *Медвежья любезность.* **5.** *Собрание сочинений про невымышленного героя.* **6.** *Животное, поминающее недобрым словом изобретателя колеса.* **7.** *Он превращает любую дорогу в железную.* **8.** *Знак препинания, не оставляющий никаких надежд.* **13.** *Бодающийся знак Зодиака.* **14.** *Высокооплачиваемый друг подсудимого.* **15.** *Любопытная дама, травмированная на базаре.* **16.** *Цыганский дом на колесах.* **17.** *Раньше ею была коса, теперь косметика.* **18.** *Здоровенный мужчина.* **21.** *Полухозяин на земле.* **24.** *К нему стремятся, но большинство не достигают.* **25.** *Случайный человек в таборе у цыган.* **27.** *Цыганская община, которая уходит в небо.* **28.** *Чужой боец невидимого фронта.* **29.** *И сердечный, и предохранительный.* **30.** *Орех, ведущий кротовый образ жизни.*



**Калектыў работнікаў хірургічнага аддзялення райбальніцы** выказвае глыбокае спачуванне **Юліі Валер'еўне БЛІНОВАЙ і яе РОДНЫМ** з выпадку смерці **СТРЫЕЧНАГА БРАТА, ПЛЯМЕННІКА.**

**Былыя аднакласнікі выпуску 1980 г. СШ №2 імя К.П.Арлоўскага райцэнтра** падзяляюць вялікае гора з **Аляксандрам Віктаравічам ІВАНІЦКІМ і яго СЯМ'ЁЙ** з выпадку дачаснай смерці **СЫНА, БРАТА Сяргея.**

**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі:*
*Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,*
*Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,*
*рэдакцыя газеты "Кіравец".*

**Рэгістрацыйны № 285.**
**Падпісана да друку ў 17 гадзін.**

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*
*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж жніўня 2777.*